# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№10(146)

15 траўня 2015 | Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь


# БЕДНЫЯ, ТАМУ ШТО… БАГАТЫЯ?

***У гэтым парадоксе цяжка разабрацца нават спецыялістам. Але хвароба «спачатку набыць, а потым падумаць — навошта» - даволі распаўсюджаная з'ява сярод прадпрыемстваў.***



***НАВАТ НЕ РАСПАКАВАЛІ***

На 4 заводах таварыства «Клімавіцкі ЛГЗ» правершчыкі Крычаўскага міжраённага Камітэта дзяржаўнага кантролю (далей КДК) знайшлі незапатрабаванае абсталяванне на суму 9,6 мільярда рублёў, частка якога набывалася яшчэ 20-25 гадоў таму.

Засталіся без прымянення катлы, хімічная помпа, халадзільныя агрэгаты, кампрэсарная ўстаноўка, іншыя прадметы. Некаторыя з іх нават яшчэ і не распакаваныя, як, напрыклад, этыкеравальная машына, якая каштуе больш за мільярд рублёў.

— У савецкі час гэта было звычайнае абсталяванне, якое знаходзілася на ўзбраенні ўсіх адпаведных заводаў, — кажа старшыня Крычаўскага міжраённага КДК Сяргей Уласенка. — Тады дызайн віна-гарэлачнай прадукцыі быў прасцейшым і хапала франтальнай этыкеткі. Цяпер такімі машынамі ўжо амаль ніхто не карыстаецца, абсталяванне састарэла. Нікому не патрэбны і тыя старыя катлы, якія мы знайшлі на складзе. Яны вельмі энергаёмістыя.

***НАБЫВАЛІ, А ПОТЫМ ДУМАЛІ***

На заводзе патлумачылі, што ў 90-я гады былі цяжкасці з узаемаразлікамі, даводзілася браць на бартар тое, што даюць. Чаму гэта не выкарысталі? Цяжка сказаць. Ды і няма каму. Кіраўнікі, якія рабілі гэтыя запасы, даўно ўжо на прадпрыемстве не працуюць. Але існаванне ва ўмовах рынычных адносін мала чаму навучыла іх паслядоўнікаў.

У 2008 годзе пачынаецца рэканструкцыя аб'ектаў Клімавіцкага ЛГЗ і на складах зноў назапашваецца далёка не танны «баласт». Спачатку набываюцца 3 ёмістасці з нержавейнай сталі агульным коштам больш за 1,6 мільярда рублёў, але раптоўна планы мяняюцца, і абсталяванне становіцца нікому не патрэбным. Тэарэтычна ім можна скарыстацца, але каб яго ўстанавіць, спатрэбіцца каля 9 (!) мільярдаў рублёў.

Не адразу атрымалася вызначыцца і з пяццю ёмістасцямі, якія таварыства купіла ў 2011 годзе. Спачатку катлы набываліся для пашырэння магутнасцей Чырванабудскага завода, потым іх перадалі на рэканструкцыю Міхалінскага завода. У выніку іх вярнулі ў Чырвоную Буду, а Міхалінскі завод закансерваваў. «Такое адчуванне, што кіраўніцтва спачатку нешта набывала, а потым думала, куды гэта ўсё прыстасаваць», — губляецца ў здагадках Сяргей Уласенка.

За выяўленыя парушэнні шэраг кіраўнікоў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці. З незапатрабаванага абсталявання нешта пайшло на металалом, нешта пераведзена ў тэхналагічны запас. Зразумела, што тыя грошы, якія калісьці ўсё гэта каштавала, вярнуць не атрымалася.

На жаль, звычка рабіць непатрэбныя запасы ўласціва не толькі Клімавіцкаму ЛГЗ. Са 113 арганізацый, што паспелі наведаць да сярэдзіны лютага супрацоўнікі КДК Магілёўскай вобласці і пракуратуры, 108 мелі абсталяванне, якое доўгі час не выкарыстоўвалася. Агульны кошт яго склаў больш за 236 мільярдаў рублёў. А яшчэ кажуць, што мы бедныя.

**** матэрыял надрукавала рэспубліканская газета "Звязда"***

# НЕПЛАТЕЛЬЩИКОВ ПРЕДУПРЕЖДАЮТ ПОЛГОДА,

## *а потом могут выселить в другое жильё и даже из города*

**Елена ПОЛЯКОВА**

***Одно из самых любимых утверждений государственной пропаганды — это заявление о недорогих и доступных тарифах ЖКХ в Беларуси. Услышав подобные речи, всегда испытываешь как минимум сомнение. Например, нас частенько уверяют в том, что белорусские граждане оплачивают лишь незначительную часть от расходов государства на коммуналку. Если это так, то получается, что расходы эти очень велики, а наши доходы напротив — низки. К тому же хватает людей, которые по тем или иным причинам вообще не платят за жилищно-коммунальные услуги. Выходит, что тарифы доступные и недорогие, а всё равно неплательщиков в стране полным полно.***



В «Роднай ніве», климовичской районной газете, периодически напоминают про долги потребителей жилищно-коммунальных услуг. Задолженности у районных потребителей ЖКУ составляют, в основном, от одного до двух миллионов рублей. На первый взгляд, это сущая мелочь, беспокоиться не о чем. Но неплательщики не всегда понимают, что времена даровой коммуналки уже прошли, а последствия за неуплату серьёзно ужесточились.

Теперь выселение грозит тем, кто имеет без уважительных причин шестимесячную задолженность по плате за пользование жилым помещением и ЖКУ (Жилищный кодекс РБ, статья 86. Выселение граждан, уклоняющихся от внесения платы за жилищно-коммунальные услуги и платы за пользование жилым помещением). Кстати, важно подчеркнуть, что подобная ответственность распространяется и на собственников приватизированных квартир (Жилищный кодекс РБ, статья 155).

Неплательщиков ЖКУ по-хорошему предупреждают полгода, а затем причины неуплаты будет рассматривать суд. Иначе говоря, начинается процесс выселения должников в судебном порядке.

Неприятным сюрпризом для них станет то, что предоставляемое взамен жилое помещение может оказаться по общей площади менее занимаемого помещения. Это установлено законодательством, где также прописано, что новое жильё могут предоставить за пределами данного населённого пункта. Найти жильё в таких райцентрах как Климовичи становится всё сложнее, поэтому климовичским должникам вполне может грозить вариант с переселением в сельскую местность. Это более чем реально, ведь по данным Главного статистического управления Могилёвской области обеспеченность населения жильём в Климовичском районе на фоне других районов Могилёвщины оставляет желать лучшего.

| Квадратных метров общей площади на одного жителя, на конец 2013 г. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| РАЙОН | кв. м | РАЙОН | кв. м | РАЙОН | кв. м |
| **Белыничский** | **29,6** | **Климовичский** | **28,8** | **Мстиславский** | **35,9** |
| **Бобруйский** | **38,1** | **Кличевский** | **36,3** | **Осиповичский** | **36,3** |
| **Быховский** | **33,5** | **Костюковичский** | **31,3** | **Славгородский** | **29,8** |
| **Глусский** | **41,7** | **Краснопольский** | **28,0** | **Хотимский** | **33,2** |
| **Горецкий** | **26,1** | **Кричевский** | **27,2** | **Чаусский** | **31,6** |
| **Дрибинский** | **38,6** | **Круглянский** | **34,2** | **Чериковский** | **27,2** |
| **Кировский** | **40,0** | **Могилёвский** | **35,1** | **Шкловский** | **33,9** |

# В УКРАИНЕ ПЕНСИЮ МОЖНО БУДЕТ ПОЛУЧИТЬ В НАСЛЕДСТВО

Как сообщает Еврорадио, Украина переходит на накопительную пенсионную систему. В 2017 году она станет обязательной для всех граждан моложе 35 лет. На первом этапе реформа затронет 6 миллионов украинцев. Ежемесячно на их личный счёт будет поступать определённая сумма — сначала 2% от зарплаты, а дальше каждый год процент будет расти, пока не достигнет 7% в 2022 году.

При этом общая сумма социальных отчислений не изменится и будет просто перераспределена на различные счета. Часть отчислений будет идти на содержание пенсионеров по традиционной солидарной системе, информирует УНИАН.

Примечательно, что накопленные пенсионные активы человека могут наследовать его родственники, если он умрёт, не дожив до пенсии.

# «ЛУКАШЕНКО ИНТУИТИВНЫЙ ЧЕЛОВЕК, НО ТУТ ОН ПРОКОЛОЛСЯ»

***Руководитель аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико считает, что подписание Лукашенко декрета № 3 «О предупреждении социального иждивенчества» — неудачный шаг.***

Особого вливания денег в бюджет декрет не даст, но может значительно ослабить поддержку власти, — такой комментарий Леонид Заико дал Радыё Свабода.

«Я считаю, что Лукашенко потерял интуицию. Вообще он очень интуитивный человек, но тут он прокололся. Декрет о тунеядцах — это очень эффективный шаг накануне президентских выборов как раз не в пользу того, кто сейчас держит власть. Придумать лучшей антилукашенковской компании невозможно. Если этот декрет начнёт действовать, то он сработает на мобилизацию белорусов против нынешней власти. Этот документ затрагивает около миллиона белорусов - прежде всего тех, кто едет работать за границу. Это квалифицированные, активные работники, зарабатывающие там, а тратящие деньги здесь, в Беларуси. А президент провозглашает какую-то охоту на ведьм».

Напомним, граждане, которые не участвовали в финансировании государственных расходов в 2015 году, обязаны до 15 ноября 2016 года внести в доход бюджета 3,6 миллиона рублей.

# ВОЛОНТЁРЫ ИЗ США В КЛИМОВИЧАХ

Татьяна ПОДЛИПСКАЯ, Могилёвская правда

***Отделение дневного пребывания для инвалидов климовичского районного центра социального обслуживания населения посетили гуманитарные волонтеры — семейная пара из штата Айдахо США Гэри и Кэйлин Джон. Прибыли они сюда как представители международного благотворительного общественного объединения «София», которое осуществляет свою деятельность на территории многих стран мира, в том числе и Беларуси.***

— Мы дружим с ними более десяти лет, — говорит директор Климовичского ЦСОН Светлана Гращенко. — Благодаря спонсорской помощи благотворительного объединения в отделении круглосуточного пребывания для граждан пожилого возраста в деревне Борисовичи появились стиральная и сушильная машины, газовая плита, холодильник, а в отделении дневного пребывания для инвалидов — оборудование для полиграфической мастерской и мебель.

Молодые инвалиды с ограниченными возможностями теперь будут работать в мастерской пять дней в неделю и изготавливать различную продукцию для внутренних нужд. Для этих людей очень важна реабилитационно-трудовая деятельность, которая помогает им почувствовать свою значимость и полноценность.

## НОВОСТИ РЕГИОНА




### К ЮБИЛЕЮ ПОБЕДЫ

***К 70-летию Великой Победы в агрогородке Тимоново Климовичского района был установлен памятный знак. Учащиеся и учителя местной школы совместно с работниками Тимоновского сельсовета провели возле знака «Звезда Победы» торжественное мероприятие. Также в Климовичах в ходе празднования юбилея открыли памятник женщине-климовчанке, перенесшей все тяготы Великой Отечественной войны***

### ЛИСА ПОКУСАЛА СВИНЕЙ

***Лиса, больная бешенством в буйной форме, забежала на подворье в Климовичском районе и напала на свиней. Как информирует «Советская Белоруссия», хозяин убил непрошеную гостью. Другие домашние животные пока под наблюдением. Это происшествие, по данным заведующего отделением эпидемиологии особо опасных инфекций Могилёвского областного центра гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья Олега Омельяновича, случилось в деревне Борисовичи Климовичского района.***

### СЪЕЗДИЛИ В ЧЕРИКОВ…

***Как сообщает сайт УВД облисполкома, 8 мая была осуществлена проверка рынка в Черикове по ул. Басина. В ходе проверки выявлен факт реализации индивидуальным предпринимателем, жителем города Климовичи, товаров (детские игрушки, книги), без соответствующих документов. Продукция на сумму 12 млн. 300 тыс. руб. изъята. Составлен административный протокол по ст. 12.17 ч.4 КоАП РБ. В тот же день был установлен ещё один факт реализации товаров (книги, канцелярские товары) без соответствующих документов, принадлежащих индивидуальному предпринимателю, жительнице Кричева. Продукция на сумму 23 млн. 700 тыс. руб. была изъята, а в отношении ИП также составлен протокол.***

# АДКУЛЬ ГЭТАЕ ЛІХАЛЕЦЦЕ НА ШКЛОЎ?

Рыгор КАСТУСЁЎ

***У гэтым годзе на базе Шклоўскага раёна адбыўся выяздны семінар-вучоба старшынь раённых выканаўчых камітэтаў, асоб, уключаных у рэзерв кадраў на замяшчэнне пасад старшынь райвыканкамаў, кіраўнікоў сельскагаспадарчых арганізацый Мінскай вобласці. Гасцей з Міншчыны старшыня Шклоўскага райвыканкаму А.Бойка сустракаў з караваем ажно на мяжы Магілёўскага і Шклоўскага раёнаў.***




Удзельнікі семінару наведалі шэраг аб'ектаў раёна. Такія, як фермерская гаспадарка "Дыяна", завод газетнай паперы, ААТ "Магілёўаблён", ААТ "Александрыйскае", ЗАТ "АСБ-Агра Гарадзец".

Наколькі карысным для гасцей Шклоўшчыны было наведванне дадзеных прадпрыемстваў, могуць адказаць толькі самі ўдзельнікі семінару. Але ж у кулуарах, па вяртанні дадому, сярод іх прагучалі словы непаразумення, што для іх не была арганізавана экскурсія па Шклову, які мае такую вялікую гісторыю, не адбылося наведванне аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры.

У мінулыя гады для ўсіх гасцей горада і раёна па традыцыі абавязкова ладзіліся экскурсіі па Шклову, дзе паказваліся разнастайныя гістарычныя аб'екты. Пры гэтым прадстаўнікі шклоўскай вертыкалі заўсёды не абміналі магчымасць павыхваляцца перад разнастайнымі гасцямі дзеючымі і будуемымі сацыяльнымі аб'ектамі, добраўпарадкаванасцю і чысцінёй вуліц…

Што ж такое здарылася ў Шклове, што раённыя ўлады адмовіліся ад такой традыцыі?

Ды ўсё вельмі проста. За апошні час у плане добраўпарадкаванасці ў параўнанні з іншымі гарадамі краіны Шклоў здаў свае "лідзіруючыя" пазіцыі і знешне стаў выглядаць горш, чым іншыя раённыя цэнтры, якія нават ніколі не рыхтаваліся ні да рэспубліканскага свята "Дажынкі", ні да "Дня пісьменства".

Нават на вуліцы вакол гімназіі, дзе размешчаны галоўны гістарычны аб'ект горада -"Ратуша", чынавенству стала сорамна весці гасцей. Падобным чынам выглядае і тэрыторыя каля раённага дома культуры.

А што ўжо казаць пра лазню, або гарадскі басейн, дзе на галаву любога наведвальніка са сценаў будынка, у аконных праёмах якога гадамі растуць дрэвы, можа зваліцца кавалак або і цэлая цагліна.

Не пахвалішся і будуемым лядовым палацам. Бо аб'ект павінен быў здадзены ў эксплуатацыю яшчэ тры гады таму назад. І за гады "замарожвання" будаўнічая пляцоўка ператварылася ў палігон для цвёрдых бытавых адыходаў.

Нават некаторыя аб'екты добраўпарадкавання горада, што былі пабудаваны або рэканструяваны ў час падрыхтоўкі да "Дажынак", праз безалабернасць раённага чынавенства ператварыліся ў пастаянна-дзеючыя будаўнічыя пляцоўкі. А ад той прыгажосці аб'ектаў, калі яны здаваліся ў эксплуатацыю, засталіся толькі ўспаміны.

Да прыкладу, варта звярнуць увагу на тэрыторыю пляцовак уздоўж вуліцы Пралетарскай на перакрыжаванні з Ганчарнай пры ўездзе ў цэнтральную частку горада ад дняпроўскага маста.

Што толькі не тварылі тут будаўнікі па распараджэннях розных старшынь райвыканкама. Кожны старшыня імкнуўся пакінуць у гэтым месцы, як памяць для гараджан аб часах сваёй працы ў Шклове, за кошт раённага бюджэту якісьці аб'ект. Аднаму захацелася пабудаваць фантан. Другому , на гэтым жа месцы — "мельнічнае" кола. Трэцяму — салдата–грэнадзёра ў гонар вайны 1812 года. А ў выніку — патрачаны вялікія фінансавыя сродкі, ні адзін аб'ект не даведзены да ладу. А аб бязглуздым будаўніцтве да гэтай пары нагадваюць былыя раскопкі каля дамоў №3 і №4 па вул.Пралетарскай, дзякуючы якім шклаўчане і ўспамінаюць, толькі нядобрым словам, гэтых чыноўнікаў, абмінаючы яміны на тратуарных дарожках.

І якую вуліцу Шклова не вазьмі, усюды можна пабачыць падобныя сляды ўмяшальніцтва шклоўскага чынавенства ў добраўпарадкаванне гарадскіх тэрыторый, калі яны прымаюць рашэнні, або даюць дазвол на разнастайныя раскопкі і будаўніцтва, не выконваючы і не патрабуючы своечасовага і якаснага завяршэння гэтых работ. Такім чынам знішчаецца прыгажосць, марнуюцца фінансы, ўкладзеныя ў падрыхтоўку горада да святаў.

Падобнага варварства немагчыма пабачыць ні ў адным іншым раённым цэнтры Магілёўшчыны. І ў той жа час ні ў адным раёне Беларусі не назіраецца такога крымінальнасці сярод чынавенства райвыканкаму, як у Шклове, дзе за апошнія чатыры гады ўзбуджаны крымінальныя справы ажно па чатырох прадстаўніках кіраўніцтва, і на гарызонце ўжо праглядаюцца яшчэ новыя.

Чамусьці не жадаюць заўважаць разгул карупцыі і марнатраўства сярод чынавенства на Шклоўшчыне ні прадстаўнік прэзідэнта Г.М.Лаўранкоў, ні кіраўніцтва вобласці, ні ў адміністрацыі прэзідэнта, і на месца парушыўшых закон прызначаюцца новыя, з ужо раней "падмочанай" рэпутацыяй.

Адбываецца своеасаблівы кругаварот чынавенства па вертыкалі.

І на колькі хопіць трываласці Шклоўшчыне, каб перажыць гэтае ліхалецце?

# «МАМА, МАМА, МЫ ВЫИГРАЛИ!..»

***Ранее мы уже сообщали о том, что не так давно в Климовичах был приобретён выигрышный лотерейный билет. Особенность этого выигрыша заключалась в том, что в качестве приза счастливчик получил не деньги, а легковой автомобиль! Кто же он, удачливый климовчанин, которому улыбнулась госпожа Удача?***

***Увы, стало известно, что автомобиль выиграл житель города Костюковичи. У нас он заехал в «Евроопт», где и купил выигрышный лотерейный билет, а вернувшись домой, узнал, какой шикарный приз ему причитается. А теперь об этом событии можно узнать из первых уст.***

***«ВАШЕ ЛОТО» — ЖИВИ НА ВСЕ СТО!***
***(Official Group - vk.com/belloto)***

На улице дождь и пасмурно?  А в «Ваше Лото» только ураган ярких эмоций и солнечные ПОБЕДЫ!!! И сейчас мы порадуем вас захватывающей историей одного из наших счастливых победителей!

Сергей Старовойтов: «Я, супруга и Юля (дочь победителя) поехали в Климовичи в «Евроопт». У нас даже в мыслях не было покупать лотерейный билет. И тут мы выходим из магазина и видим реализатора.

Жена говорит: «Давай купим билет». Я отвечаю: «Давай!» и протягиваю дочке деньги. Юля выбрала билет, и мы поехали домой. Потом жена пошла на рынок с Владом (сын победителя), а мы остались дома смотреть розыгрыш «Ваше Лото», — рассказывает Сергей Старовойтов из Костюковичей, который выиграл новенький HYUNDAI ACCENT.

Ольга Старовойтова (супруга победителя): «Мы возвращаемся с рынка, а у них вот такие огромные глаза: «Оль, мы, наверное, выиграли машину…» Я говорю: «Не может быть, нам же никогда не везёт…»

Сергей Старовойтов: «Ладно, решили проверить билет в Интернете после розыгрыша. Мы сидим, ждём, никому не говорим, что у нас выигрыш».

Ольга Старовойтова (смеётся): «Тут дети кричат: «Мама, мама, мы выиграли!» Мы все как стали прыгать и кричать! Наша бабушка влетает в комнату и спрашивает: «Что же случилось…?!» Вот такая наша история! Мы не думали ехать в Климовичи, не думали покупать билет. Но вот так сошлись, наверное, звёзды…. Поэтому всем желаем никогда не отчаиваться и верить в свою победу!!!»

Сергей Старовойтов: «На самом деле в тот день у нас была двойная радость: сначала выиграли мы и получили автомобиль, а потом выиграла Дарья Домрачева Кубок Мира и получила хрустальный глобус! Поэтому мы по праву считаем себя лучшими в лотереи «Ваше Лото», а Дарью Домрачеву в биатлоне!!! Берите с нас пример, играйте и выигрывайте!!!»

# КЛИМОВИЧСКИЕ ФЕРМЕРЫ ПРИКАЗАЛИ ДОЛГО ЖИТЬ

**Ясь ГАСПАДАР**

***2 мая Лукашенко встретился с фермерами в агрогородке «Александрия» Шкловского района Могилёвской области. Во время этой встречи он напомнил, как в своё время ему предлагали раздать землю в частную собственность.***

«Вы знаете моё решение — я был категорически против. И побывав сегодня у успешных фермеров Шкловского района, у людей, с которыми я работал, которых я хорошо знаю, убедился, что тогда мы абсолютно правильно поступили», — заявил Лукашенко.

Он считает, что если бы тогда раздали землю, последствия были бы жалкими. Лукашенко заявил, что сегодня даже европейцы завидуют белорусским аграриям, так как в Европе далеко не все фермеры могут позволить себе работать на таких больших площадях земли. Там земля частная, и конкуренция очень жёсткая. В Беларуси же, говорит глава государства, сняты ограничения на пользование землёй для фермеров.

В общем, остаётся сделать вывод, что у нас не какая-то Европа, где не знают, что такое белорусский порядок. И фермеры наши о-го-го!

Понятно, что реальность совсем не такая, как хочет её представить Александр Григорьевич. Для примера вспомним, какими до правления Лукашенко были фермеры Климовичского района.

В ноябре 1989 года в Беларуси создали Союз крестьянских хозяйств и сельхозкооперативов. В следующем году были зарегистрированы первые крестьянские (фермерские) хозяйства. В стране, где десятилетиями третировали частную собственность, началось возрождение Хозяина на земле.

Лукашенко избрали в 1994-м, в 1995-м на Могилёвщине насчитывалось максимальное количество фермерских хозяйств — 522. После этого с каждым последующим годом их становилось всё меньше и меньше.




В Климовичском районе ситуация особенно примечательна. Когда-то, а именно в середине 90-х, по темпам развития фермерства Климовичи были на четвёртом месте в области. Было чем гордиться и на кого равняться. В 1994 году здесь трудилось 35 фермеров, имевших 27 тракторов. Даже создали районную фермерскую ассоциацию для решения насущных вопросов. Но дальше всё было, как и по всей стране. К сожалению, за 20 лет правления Лукашенко климовичское фермерство фактически сошло на нет.

А теперь с высоких трибун нам говорят, что сегодня даже европейцы завидуют белорусским аграриям. Поверим?!

# УЧАСТНИК ВЗЯТИЯ БЕРЛИНА

**Сергей АРЖАНЦЕВ**

В Климовичах недалеко от центра города (на перекрёстке улиц Карла Маркса и Зелёная) находится здание, которое многие горожане называют Смолякова столовая. При этом лишь немногие помнят, что данное наименование возникло от фамилии реального человека. Это — Яков Захарович Смоляк, наш земляк и участник Великой Отечественной войны. В послевоенное время он трудился в системе районной потребкооперации, в частности был директором упомянутой столовой, занимал и другие должности.

А во время войны Яков Захарович героически сражался на фронте, дошёл до Берлина, был награждён орденами и медалями. В Климовичском краеведческом музее хранится грамота за взятие фашистской столицы, которую вручил майору Я.З.Смоляку командующий гвардейской танковой армией Катуков.

История и её герои всегда рядом с нами. Главное не забывать об этом...

# МОЙ ДЕД ОСВОБОЖДАЛ КЛИМОВИЧИ

**Алексей ГРИШАНОВ, ВКонтакте**

***Мой двоюродный дедушка Матюнин Егор Максимович, участник Великой Отечественной войны. Средний брат моего дедушки Сергея Михайловича. Когда началась война, их было 8 человек в семье. Трое старших братьев ушли на войну.***




Осенью 1941 г. немцы взяли Орёл, Курск, Воронеж, Елец, Лебедянь. Семья деда жила рядом с Лебедянью в селе Большое Попово. От фронта их отделяла река Дон. С одной стороны Дона шли бои, с другой стороны они всем селом копали окопы вдоль реки, на случай отступления наших войск.

В 1942 г. дедушке Егору Матюнину исполнилось 18 лет и определением Лебедянского райвоенкомата был отправлен в Брянский фронт рядовым в 837-й стрелковый полк 238-й дивизии. При освобождении восточных районов Могилёвской области войска Брянского фронта с соединением Западного фронта 24 сентября 1943 г. вступили на территории Белоруссии. 26 сентября освободили первый районный город Хотимск. Завязались бои, уходя немцы взрывали мосты, необходимо было наладить переправу через реку Ипуть и сохранить позиции.

В 4 часа утра 28 сентября 837-й и 843-й стрелковые полки 238-й дивизии выступили первыми и овладели городом Климовичи. Наши войска на Могилёвском направлении в ходе наступления смогли продвинуться на 25 км, и овладеть городом Климовичи, городом Костюковичи, а также заняли более 500 населённых пунктов.

В этом бою погиб мой дед Матюнин Егор. Захоронен в братской могиле на Белорусской земле. В городе Климовичи установлен памятник с плитой, на которой высечены фамилии павших защитников нашей Родины, среди которых указан и мой дед Егор Максимович Матюнин.

Вечная память солдатам освободителям нашей Великой Родины!

# ФРОНТОВОЙ РАЗВЕДЧИК

**Иван ЛАППО**

***Сергей Матвеевич Шершнев родом из деревни Потемкин Ельнянского сельского Совета Хотимского района. В годы минувшей войны он был фронтовым разведчиком. Много раз ходил в тыл врага. За проявленное мужество и героизм был отмечен правительственными наградами. Среди них — два ордена Отечественной войны и орден Красной Звезды, многочисленные медали. В народе ходит молва, что одну из наград ему вручал даже сам И.В. Сталин.***

Проходил он фронтовыми дорогами в родном Хотимском районе и соседнем Климовичском. За освобождение климовичской деревушки Леонполье был награждён. Возможно, это случилось именно после того, когда двенадцать наших разведчиков уничтожили немецкий гарнизон, а сами потеряли всего лишь двоих бойцов.

После окончания Великой Отечественной войны Сергей Матвеевич служил заместителем командира по политической части одного из подразделений Балтийского флота. Вот как далеко военная судьба занесла бывшего нашего офицера-разведчика! Тогда он был уже в звании майора.

Обо всем этом мне рассказала, пока была жива, климовчанка Полина Карповна Черкасова (по мужу, также фронтовику, Шершнева), которому герой этой заметки скорее всего приходился близким родственником.

В городе Дзержинске Минской области в советские времена проживали жена и дети Сергея Матвеевича Шершнева. Может быть, они отзовутся и расскажут поподробнее об участнике минувшей войны, своем родном человеке – отце и дедушке, которого, к сожалению, сейчас уже нет в живых. Но память о нём сохранилась в сердцах близких ему людей.

# ЦІ МОЖНА ВЫКЛІКАЦЬ У СУД ЧАЛАВЕКА З ДАПАМОГАЙ СМС?

**Зміцер ЛУКАШУК, Еўрарадыё**

***Гэтай вясной у судзе Ленінскага раёна Брэста за працу без акрэдытацыі судзілі журналіста-фрылансера Тамару Шчапёткіну. Для Беларусі такая адміністрацыйная справа не новая, але гэтым разам ёсць нюансы.***

8 студзеня 2015 года паводле пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні Шчапёткіна нібыта зрабіла інтэрв'ю з супрацоўнікам ДАІ Сяргеем Неліповічам, якое з'явілася на інтэрнэт-старонцы "Беларускага Радыё Рацыя".

Першы разгляд справы мусіў адбыцца 27 лютага ў судзе Ленінскага раёна Брэста. Аднак у той дзень працэс перанеслі — суддзя вярнуў пратакол у міліцыю на дапрацоўку. А потым пачаўся проста нейкі судовы спрынт.

"А палове 9-й вечара мне тэлефануе ўчастковы інспектар Рачынскі і гаворыць, што трэба з'явіцца ў суд 5 сакавіка ў 9.30 раніцы, — аднаўляе храналогію падзей Тамара Шчапёткіна. — Я кажу: "Хто па тэлефоне выклікае? Калі я паспею наняць адваката, скласці дамову, падрыхтавацца да суда?" І не паехала 5 сакавіка. А дзесьці а палове 10-й вечара атрымліваю СМСку, што мяне выклікаюць у суд на 6 сакавіка. Ізноў у 9.30 раніцы!"

Няўжо гэта нармальна — выклікаць у суд з дапамогай СМС? Але, як сцвярджае кіраўнік прэс-службы Вярхоўнага суда Юлія Ляскова, гэта дазволена заканадаўствам.

Юлія Ляскова: "Ужо 6-7 апошніх гадоў гэта шырока выкарыстоўваецца судамі для таго, каб знізіць расходы на паштовыя перасылкі. З дапамогай СМС выклікаюцца ў суд не толькі незалежныя журналісты, але і ўсе астатнія. І даволі часта".

Калі ж узнікаюць сумневы, што такім чынам з вамі жартуюць сябры, прадстаўніца Вярхоўнага суда раіць проста патэлефанаваць у канцылярыю суда, куды выклікаюць, і ўдакладніць праўдзівасць атрыманага паведамлення. Невядома толькі, ці працуе тая канцылярыя суда а 9-й вечара.

Нягледзячы на адсутнасць афіцыйнай позвы ў суд, Тамара Шчапёткіна 6 сакавіка прыехала ў Брэст. "Бо ўбачыла, што хочуць гэтую справу хуценька правесці без маёй прысутнасці, я ім там не трэба — так спяшаліся мяне пакараць, бо 8 сакавіка заканчваўся тэрмін справы", — тлумачыць журналістка. Праўда, трапіць на разгляд уласнай справы ў яе не атрымалася.

Паслядоўнасць далейшых падзей нібыта была наступнай: "Адвакат прыйшоў у 9.20 — кабінет суддзі быў зачынены. Зайшоў у 9.30 — суддзя сказаў, што ідзе працэс. 9.40 зайшоў — сказалі, што справа Шчапёткінай ужо разгледжаная без яе, бо... яна не прыехала".



Па словах журналісткі, суддзя прапанаваў ёй выйсці з кабінета. "Трэба было выходзіць, гэта ж службовая асоба — выклікаў бы міліцыю, і 15 сутак бы далі..."

У судзе Ленінскага раёна Брэста іншае бачанне развіцця судовых падзей. Іх Еўрарадыё выкладае памочнік старшыні суда Алеся Прыступчык.

"У 9.30 сакратар судовага пасяджэння выйшла, але ў калідоры не было нікога з бакоў, і таму прынялі рашэнне разглядаць без іх. Пазней, калі ў кабінет зазірнуў абаронца, яму паведамілі, што судовае разбіральніцтва ідзе — ён пакінуў памяшканне. А калі зазірнуў другі раз, паведамілі, што справа ўжо разгледжаная, і сказалі вынік. Паўтару: калі сакратар выходзіла ў калідор — іх не было. Таму і разглядалі без іх".

Дарэчы, Тамара Шчапёткіна на дзеянні супрацоўнікаў Ленінскага суда Брэста напісала скаргу.

# ЯРМОШЫНА: «СУР'ЁЗНЫХ НАВІНАЎ НЕ БУДЗЕ»

***Дзяржаўнага фінансавання агітацыйных кампаній кандыдатаў у прэзідэнты не будзе, заявіла 14 мая на пасяджэнні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў кіраўнік ЦВК Лідзія Ярмошына.***

«Сур'ёзных навінаў не будзе, паколькі мы будзем працаваць на аснове выбарчага заканадаўства, якое было адкарэктавана яшчэ да 2014 года. А калі дакранацца выбараў прэзідэнта, то і да 2012-га», — сказала яна.

«У 2010 годзе былі некалькі іншыя правілы правядзення выбараў. Так, было дзяржаўнае фінансаванне передвыбарных агітацыйных кампаній кандыдатаў у прэзідэнты. Цяпер яго няма. Таму, калі мяне пытаюцца, колькі ў нас будзе кандыдатаў у прэзідэнты, на колькі вы разлічваеце, я кажу, што ў нас няма на гэта разліку, таму што мы не будзем выдзяляць грошы», — заявіла старшыня ЦВК.

Паводле яе словаў, кандыдаты будуць праводзіць агітацыю толькі на тое, што збяруць самі. «Але затое ім павялічылі магчымасці асабістых фінансавых фондаў з трох тысяч базавых велічынь да дзевяці тысяч. Ім далі магчымасць ствараць фонды не з моманту рэгістрацыі іх кандыдатамі ў прэзідэнты, а з таго моманту, як яны зарэгіструюць ініцыятыўную групу» — цытуе Ярмошыну БелаПАН.

Нягледзячы на гэта, прэзідэнцкія выбары абыйдуцца беларускаму бюджэту ў капейчыну. Сёлетнія выбары будуць каштаваць 180 мільярдаў рублёў, перадае Еўрарадыё. Большая частка гэтых грошай пойдзе на заробкі сябрам выбаркамаў.

# ЖЕНЩИНА И ДВОЕ МУЖЧИН УБИВАЛИ ЛЮДЕЙ ИЗ-ЗА КВАРТИР

**Марина СВЕТЛОВА, Салідарнасць**

***Тела они вывозили и закапывали на кладбищах. Преступников поймали, когда они готовились к очередному убийству.***

В производстве Главного следственного управления находится уголовное дело в отношении двух мужчин и одной женщины, причастных к убийству шести человек и приготовлению к убийству ещё одного, сообщает пресс-служба Следственного комитета.

Основанием к возбуждению уголовного дела послужили материалы проверки, проведенной Министерством внутренних дел по сообщению о приготовлении к убийству 51-летнего жителя города Могилёва.

В ходе расследования уголовного дела данная информация подтвердилась.

Кроме того, следователями были получены данные о причастности обвиняемых к убийству ещё шести жителей Могилёвской области, тела которых вывозили и закапывали на различных кладбищах.

Мотивом преступления в каждом случае выступали денежные средства, полученные от продажи квартир.

Действия обвиняемых следствием квалифицированы по ч.2 ст.139 (убийство, совершенное при отягчающих обстоятельствах) Уголовного кодекса Республики Беларусь. В их отношении применена мера пресечения в виде заключения под стражу.

В настоящее время проверяется их причастность к совершению иных преступлений.

# У ЛІТВЕ ХОЧУЦЬ АПУБЛІКАВАЦЬ ІМЁНЫ ІНФАРМАТАРАЎ КГБ

***Кіруючая ў Літве кааліцыя абмяркоўвае магчымасць апублікавання прозвішчаў тых, хто прызнаўся ў сваім таемным супрацоўніцтве з савецкай дзяржбяспекай. Вось што аб гэтым паведамляе сайт radyjo.net.***

"Мы абмеркавалі пытанне аб рассакрэчванні (прозвішчаў) людзей, якія супрацоўнічалі з КДБ, таму што прайшло ўжо 15 гадоў, магчыма, ужо прыйшоў час больш не працягваць грыф сакрэтнасці і дазволіць грамадскасці азнаёміцца", — сказаў прэм'ер Альгірдас Буткявічус журналістам пасля апошняга пасяджэння палітрады кіруючай кааліцыі.

Паводле старшыні парламенцкага Камітэта па нацыянальнай бяспецы і абароне, прадстаўніка Партыі працы Артураса Паўлаўскаса, у гэтым годзе мінае грыф "сакрэтна" для спраў тых, хто прызнаўся ў супрацоўніцтве з КДБ, і Камісіі па каардынаванні абароны таямніц трэба будзе вырашыць, ці падоўжыць тэрмін дзеяння гэтага грыфа.

Гаворка ідзе пра больш як 1,5 тысячы справаў. У 2009 годзе яны былі перададзеныя ў Цэнтр даследавання генацыду і супраціву жыхароў Літвы. Па законе, грыф "сакрэтна" дзейнічае 15 гадоў.

# ЧЁРНЫЙ ЮМОРОК

**— Ты умрёшь в нищете, совсем один, окруженный только страданиями и болью.**
**— Простите, что вы сказали?**
**— Я говорю, распишитесь здесь и кредит ваш.**

***

**— Назовите ваши сильные стороны.**
**— Инициативность!**
**— Спасибо, мы свяжемся с вами.**
**— Я сам с вами свяжусь.**

***

**— Купишь мне это колечко?**
**— Конечно, дорогая! Колечко «Краковской», пожалуйста.**

## ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ!!!




У інтэрнэце пачала дзейнічаць КЛІМАВІЦКАЯ СТАРОНКА, якую размясціла сацыяльная сетка Укантакце. Гэта — Суполка актуальных гарадскіх навін, Суполка тых, хто любіць родны горад Клімавічы. На старонцы шмат фатаграфій, навіны, падзеі, спасылкі на цікавыя сайты.

Далучайцеся, супрацоўнічайце, рэкамендуйце сваім знаёмым!

Адрас КЛІМАВІЦКАЙ СТАРОНКІ - vk.com/klimavichy

## *ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: КНІГІ, ГАЗЕТЫ, ЧАСОПІСЫ, АЎДЫЁ, ВІДЭА*

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, часопісы, аўдыё і відэа. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012, 2013 і 2014 гг.

kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*